Народная Воля
http://www.nv-online.info
8 КАСТРЫЧНІКА 2021 г.

ХВАЛЮЮЧАЯ ТЭМА

# «Не вытрымліваюць нервы, пасля дзяжурстваў плачаш»

## Дактары пра разгар чацвёртай хвалі каранавіруса

У бальніцах аддаюць пад кавід усё больш аддзяленняў, кажуць пра павелічэнне колькасці цяжкіх пацыентаў і знясіленне персаналу. Вось запісаныя назіранні дактароў з розных рэгіёнаў.

### «Месцы ў мінусах – загрузка на 105–110 працэнтаў»

*«Горш за першую хвалю»*, – так апісвае сітуацыю адзін са сталічных дактароў. *«Месцы ў мінусах – загрузка на 105–110 працэнтаў. Дзесьці прыстаўныя ложкі дадалі, а дзесьці пад палаты прыстасавалі былыя падсобныя памяшканні*, – кажа ён пра абстаноўку ў 10-й бальніцы. – *Кіслароду хапае зборльшага, але ўпрытык. Гэта з улікам таго, што з часоў першай хвалі дадатковыя кропкі правялі».*

Нягледзячы на загрузку, недалечаных дадому не адпраўляюць, трымаюць колькі патрэбна, да стану, калі не страшна выпісаць.

«Чыстым» аддзяленнем у бальніцы засталася афтальмалогія. Яе аддзялілі сценамі ад астатняй клінікі і зрабілі асобны ўваход.

*«Хвароба памаладзела. Цяпер большасць пацыентаў – 40–60 гадоў, але бывае, што ў рэанімацыю трапляюць і людзі, маладзейшыя за 30. Хутчэй за ўсё таму, што іншы штам гуляе – тая самая дэльта.*

*Прышчэпленых вельмі мала, і яны хварэюць значна лягчэй. У рэанімацыі такіх было, здаецца, два чалавекі. Прычым абое вакцынаваліся ў першых партыях, больш за паўгода таму, і ўжо быў час рэвакцынацыі»*, – дзеліцца назіраннямі медык.

Паводле яго слоў, хворых цяпер больш і хварэюць яны цяжэй. Больш людзей с дыхальнай недастатковасцю, стойкай ліхаманкай, якую цяжка збіць, часцей здараюцца ўскладненні.

### «Мы працуем на знос»

У 5-й бальніцы Мінска пад каранавірус перапрафілявалі неўралагічны корпус.

*«Штодзень патрабуюць больш выпісваць ці пераводзіць пацыентаў, але гэтыя месцы вельмі хутка запаўняюцца. Наш корпус не разлічваўся на пульманалагічных пацыентаў, на трох этажах няма кіслароду (цэнтральнай разводкі), таму яго не хапае.*

*Днямі адкрыўся стары корпус, аддзяленне на 45 ложкаў. Умовы не лепшыя, але ёсць кіслarod. Ужо запоўнілі і гэтае аддзяленне цалкам»*, – расказвае доктарка.

Працаваць цяжка, бо ў аддзяленнях не хапае медыкаў.

*«Не вытрымліваюць нервы, пастаянна на нас выліваецца столькі негатыву. Мы працуем на знос, але людзі ўсё адно лаяцца, нібыта мы вінаваты, што месцаў няма ва ўсім горадзе.*

*Праца суткамі, да ночы не можаш выйсці з «бруднай» зоны, няма часу нават збегаць у туалет. А паесці наогул раскоша – учора паелі толькі а 22-й гадзіне. Яшчэ былі людзі, але мы ўжо самі валіліся з ног.*

*Цяпер выразна бачна знясіленне і эмацыйнае выгаранне ў дактароў, а далей будзе толькі горш, пасля дзяжурстваў плачаш. Ні пра якое асабістае жыццё не ідзе размова, прыходжу дадому і нічога не магу рабіць»*, – эмацыйна расказвае суразмоўца.

За час эпідэміі ў медыкаў назапасіўся досвед працы з кавідам, новыя метады лячэння, таму ўдаецца дапамагчы большай колькасці людзей. Паводле слоў доктаркі, памірае шмат, але менш, чым у папярэднія хвалі.

*«Але трэба ўлічваць, што за ўвесь час вельмі шмат памерла людзей з уразлівай групы – пажылыя, імунадэфіцытныя са спадарожнай паталогіяй.*

*Ва ўсіх бальніцах вядзецца статыстыка пацыентаў, якія захварэлі пасля вакцынацыі. Гэта невялікая колькасць людзей, і каранавірус яны пераносяць не так цяжка. Сваіх бацькоў я прышчапіла».*

### «Адчуванне ўсеагульнай катастрофы няма, праблема з планавай дапамогай»

У Віцебску абласная бальніца часткова перапрафілявана пад каранавірус: уралагічны корпус, нефралагічны і дадатковыя рэанімацыйныя ложкі. Кавідныя месцы ўсе заняты.

*«Занятыя, бо людзі ўсімі магчымымі спосабамі адусюль спрабуюць патрапіць у абласную бальніцу. У ёй насамрэч лепш лечаць кавід, чым у любым іншым стацыянары.*

*Па некавідных ложках – планавай шпіталізацыі няма, на экстранную дапамогу месцаў упрытык, але хапае.*

*У многіх іншых бальніцах перапрафілявалі аддзяленні пад каранавірус. Там месцы, у прынцыпе, ёсць. Адчуванне, што агулам па горадзе застаецца яшчэ запас па ложках. Цяжкіх пацыентаў шмат, але гэта зразумела, паколькі пры павелічэнні колькасці хворых прапарцыйна павялічваецца колькасць цяжкіх»*, – тлумачыць віцебскі доктар.

Адчування ўсеагульнай катастрофы няма: Віцебск ужо не ўпершыню аказваецца ў такой сітуацыі. Праблема толькі з пацыентамі, якім неабходна планавая дапамога. Асабліва пакутуе анкадапамога.

*«Усё падобна на першую хвалю, толькі мы ўжо крыху ў курсе. Дактары менш хварэюць, чым тады (вялікі працэнт прышчэпленых, і адзін аднаго менш заражаем).*

*Па ўзросце пацыентаў прынцыповай розніцы няма: чым старэйшыя, тым больш хварэюць. Чым ніжэйшы сацыяльны статус, тым часцей заражаюцца».*

### «Калі ў жніўні было 10 выклікаў за дзень, то цяпер 50»

У раёнах таксама напружана.

*«Значна павялічылася колькасць выклікаў з каранавірусам. Калі ў жніўні было 10 за дзень, то цяпер 50»*, – дзеліцца медык з Мар'інай Горкі.

Сярод пацыентаў у раёне цяпер шмат дзяцей і людзей ва ўзросце 40–50 гадоў. Прышчэпленыя сярод іх ёсць, асабліва ў ліку кантактаў першага ўзроўню.

*«Вакцына не выключае, што чалавек захварэе, яна аблягчае сімптомы. Вакцынаваныя пераносяць каранавірус у лёгкай ці бессімптомнай форме. Некаторыя самі кажуць, што не захварэлі, хоць жывуць у адной кватэры з хворым чалавекам».*

Пытанне шпіталізацыі звычайна вырашаецца да прыезду брыгады хуткай дапамогі – яго вырашае доктар, які пачынаў лячэнне і адпраўляў на мазок ці здымак.

*«Калі ёсць пнеўманія, пацверджаны ПЛР-тэст, сатурацыя ніжэйшая за норму, то вязуць у бальніцу. У мае змены дастаўлялі ў нашу раённую».*

Медык кажа, што пік хвалі чакаюць бліжэй да зімы, як гэта бывае з іншымі сезоннымі захворваннямі.



ГОНАР БЕЛАРУСІ




*Ёсць кнігі, якія павінны быць у доме кожнага беларуса. На жаль, абставіны складваюцца такім чынам, што многія з іх выдаюцца мізэрнымі тыражамі. Вось і дыхтоўную працу «250 асоб з Беларусі ў дыялогах культур» удалося надрукаваць накладам усяго 1000 экзэмпляраў. Заўважым: выданне гэтай кнігі ў свой час было ініцыявана Нацыянальнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, а сам праект выконваўся Інстытутам мовазнаўства і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы. І шкада, што вынікам высілкаў такіх вядомых устаноў не стаў вялікі тыраж падрыхтаванай імі кнігі.*

*Рэдакцыя газеты «Народная Воля» вырашыла змясціць на сваіх старонках усе 250 нарысаў пра выбітных асоб з Беларусі. Вядома ж, пачынаем з Еўфрасінні Полацкай.*

# 1. Еўфрасіння Полацкая

## (каля 1101-га – 23 ці 25 мая 1167 г.)

Еўфрасіння Полацкая – полацкая князёўна, ігуменння, якая займае асаблівае, пачэснае месца ў нашай старажытнай гісторыі; беларуская святая.

Радзіма асветніцы – Полацкае княства, магутная раннефеадальная дзяржава, дзе кіравала дынастыя Рагвалодавічаў. Каля 1101 года ў Полацку з'явілася на свет дзяўчынка Прадслава, якой было наканавана далучыць да свайго імя назву роднага горада і назаўсёды застацца ў гісторыі. Яна паходзіла з роду полацкіх князёў. Яе продкамі ў чацвёртым калене былі хрысціцель Русі вялікі кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч і полацкая князёўна Рагнеда. Дзедам Прадславы быў легендарны полацкі (а некалі і кіеўскі) князь Усяслаў Чарадзей. Блізкімі сваякамі былі візантыйскія імператары, князі кіеўскія, тураўскія, пераяслаўскія, смаленскія, растова-суздальскія, уладзіміра-валынскія, каралі Венгрыі.

Асноўная крыніца біяграфічных звестак пра асветніцу – «Жыццё Святой і найпрападобнейшай Еўфрасінні», напісанае невядомым аўтарам у Полацку на мяжы XII і XIII стагоддзяў. Да нашага часу дайшло больш за 130 спісаў «Жыція…», што сведчыць пра шанаванне яе ў мінулым. Да «Жыція…» далучаецца інфармацыя нешматлікіх звестак летапісаў.

Прадслава была здольнай дзяўчынкай, мела ахвоту да вучэння, цікавілася рукапіснымі кнігамі, якія меліся пры княжацкім двары. Яе настаўнікамі былі духоўныя асобы, вучылася пераважна яна па рэлігійных кнігах. Чуткі пра прыгожую і адукаваную дзяўчыну, што ў тыя часы было вялікай рэдкасцю, разышліся за межы Полацкай зямлі. Калі Прадславе споўнілася 12 гадоў (узрост, з якога дзяўчынцы ў той час дазвалялася ўступаць у шлюб), да яе зачасцілі сваты князёў. Але дзяўчына адмовілася ад дынастычнага шлюбу і, насуперак волі бацькоў, тайна пастрыглася ў манашкі пад імем Еўфрасінні, каб аддаць жыццё служэнню Богу і свайму народу. Жыла яна ў келлі Сафійскага сабора ў Полацку.

Князёўна, якая стала манашкай, не хавалася за манастырскімі сценамі ад свецкіх клопатаў. Наадварот, яна брала чынны ўдзел у палітычным жыцці Полацкай зямлі, знаходзілася у цэнтры культурнага жыцця княства, амаль на поўстагоддзе разгарнула шматгранную асветніцкую дзейнасць. Займалася перапісваннем кніг для бібліятэкі полацкай Сафіі, што было нялегкай працай, якая тады лічылася выключна мужчынскай. Садзейнічала пабудове храмаў і заснаванню манастыроў. Збірала вакол сябе таленты, займалася мецэнацтвам. У канцы 1120-х гадоў яна заснавала пад Полацкам жаночы манастыр Святога Спаса (стаў называцца Спаса-Еўфрасіннеўскі), дзе па яе замове полацкі дойлід Іаан паставіў мураваны храм. Спаская царква, у якой размяшчалася келля Еўфрасінні, захавалася да нашага часу. Храм багата распісаны фрэскамі, якія маюць вялікую гістарычную і мастацкую каштоўнасць. У канцы 1150-х гадоў Еўфрасіння заснавала мужчынскі манастыр з царквой Святой Багародзіцы, дзеля якой набыла ў Царгарадзе абраз Адзігітрыі (Багародзіцы) Эфескай, напісаны, паводле падання, першым іканапісцам апосталам Лукой. Гэты жывапісны твор прыслаў асветніцы па яе просьбе блізкі сваяк полацкіх князёў візантыйскі імператар Мануіл Комнін ў 1158 годзе. Абраз быў бласлаўлёны царгарадскім патрыярхам. Цяпер ён знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу ў фондах Рускага музея.

Для прывезеных святынь па замове Еўфрасінні ювелір Лазар Богша ў 1161 годзе зрабіў рэліквіяр у форме крыжа (даўжыня 51 сантыметр) для царквы Святога Спаса. Ён быў выраблены з кіпарысу, абкладзены залатымі і срэбнымі пласцінкамі з каштоўнымі камянямі, эмалевымі выявамі святых і надпісамі. Гэты шэдэўр мастацтва атрымаў назву крыж Еўфрасінні Полацкай і стаў нацыянальнай рэліквіяй беларусаў, шануемай праваслаўнымі, католікамі і ўніятамі. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны крыж знік з Беларусі. Вучоныя марац знайсці яго і вярнуць у скарбніцу гістарычнага багацця. Зроблена копія крыжа, якая зберагаецца ў Полацку ў Сафійскім саборы.

Заснаваныя Еўфрасінняй манастыры сталі асяродкамі асветы ў Полацкім княстве: пры іх працавалі школы, бібліятэкі, скрыпторыі – перапісаныя ў іх кнігі разыходзіліся па Полацкай зямлі і за яе межы, – верагодна, іканапісная і ювелірная майстэрні. Сама Еўфрасіння складала і, магчыма, запісвала малітвы і дыдактычныя пропаведзі. Яна была вядомай сярод суайчыннікаў і як справядлівы суддзя, дарадчык, і як міратворца.

У пажылым веку (пачатак 1167 года) Еўфрасіння рушыла ў паломніцтва па святых месцах у Іерусалім. У гэтым нялёгкім падарожжы славутую палачанку «с великою честью» сустракаў візантыйскі імператар Мануіл, блаславіў царгарадскі патрыярх. Яна была з пашанай прынята і ў Іерусаліме. Але, знясіленая падарожжам, захварэла і памерла там 23 або 25 мая 1167 года. Пахавалі яе ў манастыры Святога Феадосія, непадалёку ад Іерусаліма. У 1187 годзе перапахавалі ў Кіева-Пячорскай лаўры – на той час гэта было самае святое месца на ўсходнеславянскіх землях. У 1910 годзе астанкі асветніцы даставілі ў заснаваны ёю Спаскі манастыр у Полацку, дзе яны захоўваюцца і сёння.

Дзейнасць Еўфрасінні Полацкай пакінула след не толькі ў гісторыі, але і ў душы беларускага народа. Еўфрасіння стала сімвалам духоўнага служэння сваёй Радзіме, невычарпальнай крыніцай маральнай сілы і духоўнага адраджэння народа. Яе царкоўнае шанаванне пачалося на Беларусі напрыканцы XII стагоддзя без афіцыйнай кананізацыі. Тады ж было напісана «Жыціё…» – адзін з найбольш ранніх твораў гістарычнай прозы. Яно ўслаўляе настойлівую і самаахвярную жанчыну, яе імкненне да ведаў і дасканаласці. Былі створаны царкоўныя спевы пра Еўфрасінню, самыя старажытныя з якіх узыходзяць да XII стагоддзя. У Маскоўскай Русі Еўфрасіння Полацкая стала шырока вядомая ў XVI стагоддзі, калі мітрапаліт Макарый уключыў яе «Жыціё…» ў «Мінеі-чэцці». Яна стала першай жанчынай, кананізаванай Рускай праваслаўнай царквой (1547 год), прызнана святой і каталіцкай царквой.

Напрыканцы XX стагоддзя асветніца з роду Усяслава была вернута ў гістарычную памяць беларускага народа і прызнана святой апякункай Беларусі. У 1984 годзе яна была далучана праваслаўнай царквой да Сабора беларускіх святых за дзейнасць на ніве ўмацавання хрысціянскай веры і асветы. Дзень памяці Св.Еўфрасінні адзначаецца царквой 23 мая. Імя Еўфрасінні носяць цэрквы ў Саўт-Рыверы (ЗША) і Таронта (Канада), беларускі прыход у Лондане (Англія).

*(Працяг будзе.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
8 КАСТРЫЧНІКА 2021 г.

СТОП-КРАН

# «Білеты можна здаць, але лепш не здаваць…»

*Арганізатары канцэрта вядомага рэпера Басты распавялі «Народнай Волі», чаму было адменена выступленне папулярнага спевака на «Мінск-Арэне» і што рабіць з квіткамі.*




Канцэрт Басты (*сапраўднае імя выканаўцы – Васіль Вакуленка.* – ***Аўт.***) быў запланаваны на 9 кастрычніка, але за чатыры дні да мерапрыемства з'явілася абвестка, што яно адменена Мінгарвыканкамам *«да стабілізацыі эпідэміялагічнай сітуацыі ў Беларусі»*.

Некаторыя звязалі адмену нават з тым, што ў мінулым годзе рэпер у сацыяльных сетках выказваў падтрымку пратэстуючым у Беларусі, але гэта толькі адна з версій.

Сёння, калі набірае абароты чарговая хваля захворвання на каранавірус, збіраць людзей на танцавальнай пляцоўцы «Мінск-Арэны» і насамрэч, мякка кажучы, лёгкадумна. Але што рабіць тым, хто ўжо набыў квіткі?

– Зараз ва ўпраўленні культуры Мінгарвыканкама рыхтуюцца новыя дакументы, і, мяркую, ужо ў бліжэйшы час мы назавём новую дату правядзення канцэрта Басты, – паведамілі мне ў кампаніі, якая займаецца арганізацыяй канцэрта. – Бо трэба ўзгадніць арганізацыйныя моманты яшчэ і з самім артыстам.

**– Чаму аб'явілі аб адмене канцэрта за чатыры дні да пачатку мерапрыемства? Пра складаную эпідэміялагічную сітуацыю толькі зараз даведаліся?**

– Не ведаем, чаму вырашана менавіта так. Гэта не да нас пытанні.

**– Канцэрт дакладна адбудзецца ў іншы тэрмін ці гэта таксама пад пытаннем?**

– Скажам так: мы будзем рабіць усё магчымае, каб мерапрыемства прайшло, хаця і ў іншыя даты. Вы ж разумееце, што мы першыя зацікаўлены ў тым, каб правесці канцэрт. Але, мяркую, у гэтым годзе ён наўрад ці адбудзецца.

**– Што з білетамі, якія людзі набылі?**

– Тут два варыянты. Першы – можна здаць квіткі ў касы і вярнуць іх стопрацэнтны кошт. А лепш не здаваць, мы менавіта гэта раім. Лепш дачакацца новай даты, калі можна будзе патрапіць на канцэрт Басты.

**– Начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама Віталь Брэль заявіў, што культурна-відовішчныя мерапрыемствы ва ўмовах каранавіруса павінны праводзіцца з выкарыстаннем толькі стацыянарных пасадачных месцаў пры іх запаўненні не больш як на 50 працэнтаў і знаходжанні гледачоў на адлегласці не менш за метр адзін ад аднаго. А ў вас квіткі прадаваліся яшчэ і на танцавальную пляцоўку. Як з гэтым быць?**

– Будзем і над гэтым думаць…

**Алесь СІВЫ.**

КРЫЖАВАНКА

# Залатая мяцеліца

*Кастрычніцкія замалёўкі*

**Па гарызанталі:** 1.«Агалела … . // Знята // Збажына з яго даўно» – з паэмы Я.Коласа «Сымон-музыка». 6.Калі чакаецца ранняя … – камароў у кастрычніку ўжо няма (прыкм.). 9.Позні восеньскія грыбы. З'явіліся … – чакай замаразкаў (прыкм.). 11.Тое, што і земляроб (састар.). 13.У кастрычніку … у крузе – лета будзе сухім (прыкм.). 14.Дарадчы орган пры патрыярху. 15.Кастрычнік сакавіку брат: … пагод на дзень (прык.). 16.Расліна з прыемным вострым пахам. 19.«Я малюю, як … апранаецца ў восень, // У кастрычніцкі смутак» – з верша Т.Светашовай «Я малюю паветра». 20.Задыякальнае сузор'е, праз якое праходзіць Сонца ў кастрычніку. 22.Пахілая паверхня гары. 27.Адна са старaславянскіх назваў кастрычніка. 28. … ў чалавека родная маці, … ў яго і Радзіма (прык.). 14 кастрычніка – Дзень маці. 29.«Кажуць, будзе ранняя зіма. // І бядуе …: дроў няма» – з верша М.Маляўкі «Будзе ранняя зіма».

**Па вертыкалі:** 1.Калі на … не было снегу, не будзе яго яшчэ два тыдні (прыкм.). Свята … адзначалі 14 кастрычніка. 2.«Ціха сцелецца, сцелецца, // … на ліст у гаях. // Залатая мяцеліца // Шалясціць на дубах» – з верша А.Бялевіча «Кастрычнік». 3.Кастрычнік зямлю балоціць, а … залоціць (прык.). 4.Гатунак яблыкаў. 5.Закончаная частка спектакля. 7.Вязкі ападак на дне вадаёмаў. 8.«І ўжо адтуль рукою маткі // На ўслон шпурляліся …» – з паэмы Я.Коласа «Новая зямля» («Раніца ў нядзельку»). 10.«Светлы кастрычнік // У празрыстасці светлай крынічнай, // …, залаты лістапад» – з верша П.Панчанкі «Родная мова». 12.Неперыядычны зборнік з твораў розных аўтараў-сучаснікаў. 17.Сонца садзіцца ў хмару – на другі дзень чакаецца дрэнная … (прыкм.). 18.Невялікі пушны звярок. 21.Паляўнічы-прафесіянал. 23.У кастрычніку і … з дрывамі, і мужык з лапцямі (прык.). 24.«Люблю мой … у позню восень, – // Як плод звісае да зямлі» – з верша Цёткі (А.Пашкевіч) «Мой сад». 25.«Глянь: пад асінамі леташні ліст, // там падасінавік // хітры, як …» – з верша А.Вялюгіна «Грыбы». 26. Мужчынскае імя.



### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Поле. 6.Зіма. 9.Зелянушкі. 11.Ратай. 13.Месяц. 14.Сінод. 15.Сем. 16.Аер. 19.Горад. 20.Дзева. 22.Адхон. 27.Падзернік. 28.Адна. 29.Мама.

**Па вертыкалі:** 1.Пакроў. 2.Ліст. 3.Лес. 4.Аніс. 5.Акт. 7.Іл. 8.Аладкі. 10.Лістапад. 12.Альманах. 17.Пагода. 18.Куніца. 21.Егер. 23.Хата. 24.Сад. 25.Ліс. 26.Ян.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

ИНТЕРЕСНО ЗНАТЬ...

# Ученые обнаружили «второй мозг» в кишечнике

*Исследователи из Университета штата Мичиган (США) сделали удивительное открытие о нервной системе кишечника человека.*



Как выяснили ученые, кишечная нервная система – удивительно независимая структура. Даже если кишечник по каким-то причинам отключается от центральной нервной системы, он всё равно может продолжать выполнять большинство своих обычных функций. А количество специализированных нервных клеток (нейронов и глии), расположенных в кишечнике человека, примерно равно количеству их в головном мозге кошки. *«Это похоже на второй мозг в нашем кишечнике»,* – заявил **Брайан Гулбрансен**, профессор кафедры физиологии Колледжа естественных наук при Мичиганском университете.

Как поясняют исследователи, если рассматривать этот «второй мозг» как компьютер, глия (совокупность вспомогательных клеток нервной ткани) – это микросхема, работающая на периферии. Эти клетки не создают сам информационный сигнал, а усиливают, модулируют или изменяют его.

Ранее в этом году команда Гулбрансена обнаружила, что изучение «второго кишечного мозга» и глии может привести к открытию новых способов лечения синдрома раздраженного кишечника (СРК), распространенного заболевания, сопровождаемого хронической болью в животе, дискомфортом, вздутием живота и нарушениями в работе кишечника. Заболевание до сих пор является загадкой для медиков, и лечения от него не существует. Примерно 15–20% взрослого населения Земли (около 840 млн) страдают от СРК, две трети из них – женщины. Средний возраст заболевших составляет 30–40 лет.

*«В настоящее время причина возникновения СРК неизвестна. Нет никаких физических изменений, есть только часть кишечника, которая внезапно перестает работать»,* – сказал Гулбрансен, подчеркнув, что, вполне возможно, дело в нарушении работы «второго мозга», а точнее в функционировании глии. Это открытие может помочь разработать новые методы лечения кишечных заболеваний.

УСМІХНІЦЕСЯ...

Няправільна казаць: «У Маргарыты Вадзімаўны выдалася дрэнная раніца». Правільна: «Раніца не задалася ва ўсёй сям'і».

* * *

– Як доўга вы ў шлюбе?
– Трыццаць гадоў як разам!
– Які жах! За забойства менш даюць…

* * *

Мяне не хвалююць грошы – яны мяне супакойваюць.

* * *

– Вы такі зайздросны жаніх, а бераце замуж такую непрывабную старую дзеву.
– Калі вам патрэбна банкнота, вы ж не глядзіце, у якім годзе яна надрукавана.

* * *

Я раней думаў, што калі выпіваеш, то жанчыны робяцца прыгажэйшымі. Цяпер заўважыў, што сам таксама харашэю.

* * *

З таго часу, як мая сяброўка зацяжарала, у маім жыцці многае змянілася: імя, нумар мабільнага тэлефона, месца жыхарства…

* * *

– Калі мужчына і жанчына робяць адно і тое ж, вынік часта бывае розны...
– Што ты маеш на ўвазе?
– Напрыклад, калі ўмываецца мужчына, ён выглядае лепш. А калі ўмываецца жанчына, то...

* * *

Прывяла свайго жаніха знаёміць з бацькамі. Тата расплакаўся: 10 гадоў не бачыў свайго аднакласніка.

* * *

19-гадовая дзяўчына з неразборлівымі сувязямі – гэта ў будучыні 40-гадовая жанчына з вялікімі сувязямі.

* * *

У прынцыпе, я нармальна стаўлюся да паездак на работу. Але чакаць 8 гадзін, каб паехаць дадому, рэальна стамляе.

* * *

– Вы чулі: Іванову асудзілі на вялізны тэрмін.
– За што?
– Яна кінула мужа.
– Ой, не вярзіце лухты! Нікога за гэта не саджаюць. Я сама кінула дваіх – і нічога.
– А вы, прабачце, з якога паверха кідалі?

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ